


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 16 (1103) ГОД XXII БЕЛАСТОК 17 КРАСАВІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.


КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## БАГАТЫРЫ

Раскінуліся яны аселіцай у 12 кіламетрах на поўнач ад Ліпска. Ад паўднёва-ўсходняй ускраіны бароў **Аўгустоўскай пушчы** аддзяляе іх усяго толькі русла пакручастай ды празрыстай рачулкі са звонкай назвай **Пярстунка.** Людзі тут ветлівыя і гасцінныя, а легенд ды песень на чысцейшай беларускай мове слухаць і не праслухаць...

Больш адлеглае і зусім мінулае пераплялося тут у мудрагелісты павой, быццам той дзівосны ўзор на пасцілках, дыванах ды абрусах, якія вытыкаюць ды вышываюць яшчэ і сёння звітныя рукі тутэйшых дзяўчат і маладзіц. Дайшоўшыя да нашых часоў дакументы, а таксама даследаванні сучасных вучоных паказваюць, што тут у сярэднявеччы пралягала мяжа паміж *яцвягамі,* насяляўшымі абшары верхняга цячэння ракі Чорная Ганча, г.зн. значную тэрыторыю вакол цяперашніх Сувалкаў, і Гродзенскім княствам, адной з зямель абшырнай і магутнай Кіеўскай Русі. Іменна на гэтым, адносна сухім і даступным конніцы, водараздзеле паміж рэкамі Бебжай і правымі прытокамі Нёмана знаходзіліся „вароты“, праз якія з поўначы вырываліся натоўпы яцвягаў, каб *„паваяваць зямлю рускую“* ды вярнуцца ў сваю *воласць-пулька* абладаванымі *здабычай-сайгатам,* а з другога боку, з поўдня, дружыны рускіх князёў, перш за ўсё гродзенскіх, брэсцкіх, пінскіх і ўладзімірскіх, праломліваліся сюдою ў Яцвягію *„атамшчавацiся“*, за прычыненыя крыўды або проста — па рыцарскаму звычаю — *„кап'ё праламіці“* ды сабе *„славы дабыці“.* Гэтым шляхам цягнуліся *крыжацкія* атрады супраць славутага князя літоўскага Вітаўта і сталіцы яго ўдзелу, горада Гродна. Неўзабаве гэтымі ж „варотамі“ ў 1410 годзе прыйшла на паўночны захад многалюдная і шматмоўная *Вітаўтаўская армія,* над шаломамі якой развяваліся харугві палкоў гродзенскага, драгічынскага, пінскага, слонімскага і іншых, каб супольна з войскамі польскімі пад Грунвальдам скрышыць крыжацкае засілле. З тых часоў не захавалася нічога, хіба толькі ў лясным урочышчы **Барок** загадкавы *вялікі могільнік.* Кажуць, што ў ім пахаваны *„салдаты з цёплых краёў, загінуўшыя тут ад вялікага марозу“.* Толькі лапата ды вока археолага можа вырашыць, ці гэта былі крыжацкія *ры-*

(Працяг на стар. 4)

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“





**ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ.** Лідзія Паўлюк — перадавая прадзільшчыца Завода шарсцяной прамысловасці імя Эміліі Плятэр у Васількове.

Фота. Р. Сянько.

## КААПЕРАТАРЫ

Новая карта гісторыі вёскі Стары Корнін (гміна Дубічы Царкоўныя) датуецца ад 19 сакавіка 1959 года. Ад гэтага часу існуе там сельскагаспадарчы кааператыў, які спачатку аб'ядноўваў толькі 12 членаў. Але дзякуючы настойлівасці і працавітасці кааператараў, кожны год калектыўнай працы прыносіў новыя дасягненні. Павялічваўся парк сельскагаспадарчых машын, лепш угнойвалася і апрацоўвалася зямля, узрастала зар-

зл., а ўжо шаферу Мікалаю Далінскаму вышла ў месяц па 6 112 зл. Апрача таго, маюць кааператары немалыя даходы са сваіх прыўсадзебных участкаў і з уласнай жывёлагадоўлі. Тыя, якія аддалі сваю зямлю ў кааператыў, атрымоўваюць спецыяльныя грашовыя даплаты.

Як з гэтага вынікае, умовы працы і заробкі кааператараў набліжаны да гарадскіх, да такіх, якія маюць рабочыя фабрык. Нават у пэўнай ступені можна

плата за працадзень, павялічвалася сям'я кааператараў. Адным словам, разрасталася гаспадарка, багацеў кааператыў.

На канец 1976 года аб'ядноўваў ён 37 сем'яў і 56 членаў, валодаў 334 га зямлі і дабіўся высокіх ураджаяў збожжавых — 35,5 цэнтнераў з аднаго гектара, а бульбы 311 цэнтнераў. Дзяржаве кааператыў прадаў у мінулым годзе 228 тон збожжа, 48 тон рапсу, 118 тон цукровых буракоў і 162 тоны бульбы.

Другой спецыялізацыяй кааператараў з'яўляецца адкорм куранят-„бройлераў“. У 1976 годзе было прададзена 73,7 тыс. штук (вага іх — 116 тон).

Агульны даход у мінулым годзе склаў 4258 тыс. зл., а даход да падзелу — 2705 тыс. зл. На 1 працадзень вышла па 200 зл. Ды гэты працадзень у кааператараў 8-гадзінны, такі, як на фабрыцы. І платныя тут месячныя водпускі. А каб мець права карыстацца з гэтых сацыяльных умоў, мужчына абавязаны на працягу года выпрацаваць 140 працадзён, а жанчына — 105 працадзён.

Найбольш зарабляюць механізатары. Але і ў радавых кааператараў месячная зарплата была таксама высокая. А вось некаторыя дадзеныя: палявая рабочая Кацярына Корх мела месячную зарплату ў сярэднім па 3650 зл., у другой палявой рабочай Надзі Аляксеюк месячная зарплата выходзіла ў сярэднім па 4128 зл., а рабочыя — Сяргей Шэшка і Аляксандр Далінскі ў месяц атрымалі: першы — 4333 зл., а другі — 5761

гаварыць аб тым, што ў Старым Корніне ёсць магчымасць зарабіць неаднойчы больш, чым не аднаму працуючаму ў горадзе.

Гэты фактар спрыяе таму, што маладыя людзі не ўцякаюць у горад, а застаюцца жыць і працаваць у кааператыве. Вось, напрыклад, два сыны старшыні кааператыва Аляксея Тамашука вырашылі сваю будучыню звязаць з кааператывам. Гэтак сама і два сыны брыгадзіра Івана Гаўрылюка, а нядаўна вярнуўшыся з арміі Іван Сурэль таксама далучыўся да кааператыўнай сям'і.

1976 год для кааператараў быў нязвыклым годам. Абгарадзілі яны свой гаспадарчы цэнтр, зрабілі асфальтаваную даязную дарогу да яго, пабудавалі сучасную базу паліва, амаль цалкавіта збудавалі адміністрацыйна-сацыяльны будынак і, што найважнейшае, распачалі будову будынка на адкорм 1200 штук свіней.

Цяпер кааператары вядуць падрыхтоўчыя працы да заключэння з кааператарамі дагавораў на дастаўку вепрукоў „вархлякаў“, а таксама забеспячэнне іх свінаматкамі. Ужо разведзена 14 штук маладых свінаматак. І ўжо ёсць заказ на наступныя 15 штук. Такім чынам, адразу будзе чым напоўніць новы свінарнік і заняцца з месца планаваным адкормам.

Бягучы год напэўна прынясе далейшыя дасягненні. Закончыцца аднаўлен-

(Працяг на стар. 2)

## СКАРБЫ БЕЛЬСКАГА БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ

Дэвіз дырэктара: *„Для мяне добры вучань — гэта сапраўдны скарб“.*

Гаманлівым, бестурботным натоўпам высыпаліся яны на школьную спартыўную пляцоўку. Настаўнік Мікалай Шымчук скамандаваў да пераклічкі. Вучаніцы пастроіліся ў роўную шарэнгу. Дзяўчаты-прыгажуні. Пакаленне перыяду стабілізацыі і дабрабыту. Глядзі і любуйся!

А дырэктар прадаўжае:

— Добры вучань сваім прыкладам найлепш уздзейнічае на іншых, выклікае ў іх імкненні да высакароднага спаборніцтва, яго сябры таксама хочуць быць добрымі і яшчэ лепшымі вучнямі...

Праз гадзіну на спартыўнай пляцоўцы дзяўчат падмяняюць хлопцы. Доўгаваласыя, некаторыя ўжо пад вусікамі, рослыя, плячыстыя, юнакі-здаравякі.

Вучні... Моладзь... Дзеці з горада Бельска і з навакольных вёсак і мястэчак. Прыемна падумаць, што выраслі яны ва ўмовах непараўнальна лепшых ад тых, якія выпалі на долю іх бацькоў і дзядуляў.

А дырэктар прадаўжае сваю думку:

— Добры вучань, бы магніт, прыцягвае ў наш ліцэй добрых вучняў з іншых школ, а з добрымі вучнямі і настаўнікі лепш стараюцца працаваць...

Гэта тэорыя, і няма, спадзяюся, аніводнага дырэктара школы, які хацеў бы мець у сябе дрэнных вучняў. Дык тэорыю трэба параўнаць з практыкай. У **ліцэі імя Бранiслава Тарашкевіча** вучыцца зараз амаль 500 дзяўчат і юнакоў, якія складаюць 15 класных аддзелаў. **Сярод гэтых 500 вучняў** к о ж н ы ч а ц в е р т ы — так даказвае дырэктар **— здабыў за мінулае паўгоддзе навукі выключна** д о б р ы я, **або** в ы д а т н ы я **ацэнкі.** Значыць, сярод „тарашкевічаўцаў“ найменш 125 школьных выдатнікаў!

Цяпер і я глыбей разумею словы дырэктара:

— Аўтарытэт школы найлепш падмацоўваюць добрыя вынікі навучання.

Каб узмоцніць гэты аўтарытэт, настаўнікі бельскага беларускага ліцэя сягнулі шырокім фронтам па а л і м п і й с к і я л а ў р ы. Па ўласнай волі і па ініцыятыве дырэктара ад самага пачатку навучальнага года пачалі болей пільна сачыць за сваімі вучнямі, каб выявіць у іх зацікаўленні, накіраваныя на нейкую галіну ведаў. Гэта, вядома, патрабавала ад настаўнікаў таго, што мы звычайна называем **грамадскай ах-**

(Працяг на стар. 4)

БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77



**Люба Гаўрылюк з Беластока — І месца на сёлетнім цэнтральным аглядзе БГКТ (група салістаў, катэгорыя сучаснай песні).**

**Фота К. Свідэрскага.**

# Фальклорныя матывы ў паэзіі Францішка Багушэвіча

З першых сваіх крокаў на літаратурнай ніве Ф. Багушэвіч усімі сіламі душы быў звязаны з народам, з простым людам, з яго горам і свабодалюбівымі імкненнямі, з яго вуснай паэзіяй. Вусная паэзія была неад'емным духоўным спажыткам і верным спадарожнікам паэта. Ніводнаму амаль пісьменніку не дадзена было ўзыйсці да такога адзінства з фальклорам, як Багушэвічу. Радкі яго верша „Мая дудка“ амаль нічым не адрозніваюцца ад чыста народных:

*„Эх скручу я дудку!*
*Такое зайграю,*
*Што ўсім будзе чутна*
*Ад краю да краю.*
*Ой то будзе гранне,*
*Як на павітанне*
*І як на вяселле,*
*Нядоўга тыкелле.“*

Фальклорна-песенны зачын верша „Эх скручу я дудку“ глыбока народны.

Матывамі і паэтыкай вуснай народнай творчасці навеяны і радкі верша „Удава“:

*„Шуміць з горкі ручаёк,*
*Брызгі раскідае, —*
*Плача ўдава сярод ночак,*
*Вочкі выцірае.*
*Ой маркотная, ліхая,*
*Доля сірат-дзетак!*
*Але горшая ўдавая*
*Як тых малалетак.“*

Верш гэты амаль нічым не адрозніваецца ад фальклорных „удавіных песень“. Тут той жа традыцыйны песенны зачын, без якога не абыходзіцца амаль ніводная народная песня, тыя ж эпітэты песні („маркотная“, „ліхая“), памяншальна-ласкальныя назоўнікі („ручаёк, „ночка“, „вочкі“).

Матывамі вуснай роднай творчасці прасякнуты і такія бліскучыя ўзоры беларускай рэалістычнай паэзіі Багушэвіча, як „Мая хата“, „Кепска будзе“, „Бог не роўна дзеле“, „Думка“, „Дурны мужык, як варона“ і многія іншыя.

Багушэвіч выкарыстаў у гэтых творах самыя дасканалыя, непаўторныя ўзоры вуснай народнай паэзіі, пра якую Чэрнышэўскі сказаў: „Яна заўсёды ўзнёслая, чыстая, прасякнутая ўсімі пачаткамі прыгожага“...

Уся паэзія Багушэвіча ўвабрала ў сябе ўсё тое лепшае, чыстае і выдатнае, чым так шчодра, паводле адзначэння Чэрнышэўскага, надзелены фальклор.

Асабліва цікавым і праграмным па ідэі вершам з'яўляецца верш „Дурны мужык, як варона“. У гэтым вершы Багушэвіч дае яркі прыклад творчага выкарыстання фальклору з рэалістычным адлюстраваннем прычын народнай нядолі. Ідэя верша заключаецца ў тым, што свядомасць забітага цяжкай працай селяніна адстае, што ён не ўяўляе сабе таго, што ён з'яўляецца тварцом усіх багаццяў на зямлі, якімі карыстаюцца яго прыгнятальнікі. Каб паказаць прычыну цемнаты і забітасці людзей, аўтар звяртаецца да сучаснай яму вёскі. Там ён знаходзіць не толькі змест, але і вобразную народную форму твора, насычаную народнай лексікай. Так паўстала карціна, у якой пераканаўча паказана прычына беспрасветнай цемры і невуцтва беларускага селяніна.

*„Да навукі ён не браўся,*
*Закасіўся, загараўся.*
*Дурнем умрэ, як радзіўся,*
*Сам дурным зрабіўся...*
*Дык крычыце ж, біце ў звона:*
*Дурны мужык, як варона.“*

Прымаўка „Дурны мужык, як варона“ выкарыстана Багушэвічам у якасці рэфрэна. Гучыць яна, як насычаны іроніяй заклік, звернуты да народных мас. Багушэвіч смела і настойліва ўводзіў у літаратурную мову народныя песні, прыказкі, змест казак, легенд. У гэтых адносінах не меў сабе роўных:

*„Не браўся да навукі“, „Закасіўся, загараўся“, „Сам жывець у мокрай яме“, „Якая доля, такая песня“, „Бог сіроты любіць, але долі не дае“.*

Вершы Багушэвіча часта цяжка адрозніць ад чыста фальклорных, хоць пісьменнік не механічна наследаваў узоры вуснай паэзіі. Ён падыходзіў да яе творча. Паэт аднак ведаў, што рэалістычна адлюстраваць сацыяльную несправядлівасць можна толькі на роднай мове, у якой можна знайсці натуральныя, шчырыя мастацкія дэталі, якія памагаюць рэалістычна адлюстраваць сацыяльную несправядлівасць і ахарактарызаваць працоўнага нястомнага чалавека, які за мазольную працу жыве амаль у галечы:

*„Усе едуць у палацы.*
*У мужыка няма білета.*
*Ці ж не дурань мужык гэта?“*

На фальклорных параўнаннях-паралелізмах пабудаваны амаль усе творы Ф. Багушэвіча. Ад гэтага правіла ён ніколі не адступаў і адначасова падкрэсліваў, што ў народнай беларускай мове і яе вуснай паэзіі заложана „мудрая прастата“. Таму ён і чэрпаў з яе крыніцы сваю паэтычную мову і вобразы. Фальклорныя элементы надавалі творчасці Багушэвіча непаўторнае мастацкае харавство, жыццёвую праўдзівасць і паэтычную свежасць.

**Ніна Вішнеўская**

## Апрача паслуг — курсы

Добра пачаў бягучы год бельскі ГС. За два першыя месяцы план продажу тавараў і паслуг перавыканалі. Найлепш працавалі фабрыка напіткаў і мяшання паш, кравецкае прадпрыемства і транспарт. Добрых вынікаў дабіліся таксама і ў кантрактацыі. На бягучы год Бельская гміна закантрактавала 2 тысячы гектараў чатырох збожжавых культур. Так што тут план таксама перавыкананы. Як гэта ажыццявіцца ва ўраджаі — пакажа год. А цяпер пакуль што вясна, і бельскі ГС прыступіў да распаўсюджвання высакаякаснага ільнянога насення, якога мае ў магазіне амаль 100 тон. Апрача вытворчасці і паслуг наладжваюць розныя курсы. Вось, прыкладна, 10 сакавіка закончыўся курс пры цэнтры „Сучаснай гаспадыні“ на тэму грамадска-палітычнага абучэння жанчын, аб'яднаных у гуртках вясковых гаспадынь. (ша)

## Будуецца фабрыка дываноў

У Беластоку будуецца фабрыка дываноў. Будзе яна трэцяй у краіне (дагэтуль такія фабрыкі пабудаваны ў Каварах і Лодзі). Прадукцыйны цэх беластоцкай фабрыкі дываноў будзе мець 253 метры даўжыні і 196 метраў шырыні. Зойме яна плошчу ў пяць гектараў. Фабрыка будзе выпускаць 2,2 млн. квадратных метраў дываноў у год. У ёй будзе працаваць 2 400 асоб. Для рабочых і іх сем'яў будуць пабудаваны сталовая, амбулаторыя, цэнтр культуры, а з часам дом адпачынку, жылыя блокі, прадшколле, яслі і інш.

Беластоцкая фабрыка дываноў дасць першую прадукцыю ў 1978 годзе. (ця)



## Хор з харошай будучыняй

Вельмі добры студэнцкі хор мае Беластоцкая медыцынская акадэмія. 70-асабовы. У ім 11 лекараў, якія, закончыўшы акадэмію і працуючы ў Беластоку, не парвалі сувязей з хорам, які ўсё больш расце і славіцца.

Яму ўжо 12 год. З выпадку гэтага юбілею хор выступіў з канцэртам у Медыцынскай акадэміі для любіцеляў харавой песні і сваіх прыяцеляў. Атмасфера панавала цёплая, сардэчная. Канцэрт быў своеасаблівым аглядам рэпертуару і мастацкіх магчымасцей хору. І адны, і другія вялікія. У рэпертуары — песні ўсіх эпох і розных народаў, спяваюцца на той мове, на якой паўсталі.

Канцэрт пачаўся двума псальмамі Мікалая Гамулкі — кампазітара эпохі польскага рэнесансу. Потым мы пачулі песні італьянскага рэнесансу, сучасныя негрыцянскія песні ЗША (negro spirituels), песні польскіх і замежных кампазітараў навейшай эпохі, народныя песні ў кампазітарскай транскрыпцыі.

Так розныя па стылю і паходжанню творы дазваляюць высока ацаніць мастацкія выканаўчыя магчымасці хору. Беластоцкі хор характэрны добрымі, моцнымі мужчынскімі галасамі. Гэта стварае шанц, каб брацца за творы найбольш складаныя і цяжкія.

Хор здабыў ужо лаўры на многіх краёвых фестывалях і канцэртах, пабываў і за граніцай. У мінулым годзе хор выступіў на міжнародным фестывалі мешаных хораў у Англіі, дзе заваяваў другое месца. У гэтым годзе пад восень паедзе ў СССР на святкаванне 60-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Ад першага кастрычніка 1974 года хорам кіруе Раман Зялінскі — чалавек, сардэчна заангажаваны ў гэтую справу, якога цэняць і любяць харысты. За яго кароткую яшчэ працу хор вырас ушыр і ўвысь. Калі тэмп і жар працы не зменшацца, можам чакаць вялікай славы нашага хору, чаго і жадаць трэба ім у іх скромны юбілей.

**Вера Леўчук**




## Як Ігнат жонку культуры навучаў

Жыў Ігнат са сваёй Ігнаціхай на ўскраіне вёскі. Ігнаціха за куры з суседкай сварылася, а Ігнат думаў, як бы скупасць з жонкі выгнаць і культуры навучыць, ды зажыць нарэшце па-чалавечы. Людзі тэлевізары маюць, а ў іх нават у хаце газеты няма. Ну і баба ў яго была! І на вёсцы, і ў хаце жыць не давала.

— Каб на цябе канцы найшлі! — верашчыць на ўвесь панадворак. — Сядзіш ды япаўкай варон лапаеш, а ўжо другая гуска з крылом абскубаным ходзіць.

— Бабо! То ж ты сама вырвала булачкі прымазваць!

— А каб цябе ў грабовую доску замазала! То ж я, як вырвала, то адно толькі, а тут глянь, каб табе павылазілі...

— Ну проста пагубіла. Не паскубла ты іх.

— А каб цябе дарэшты абскубла! Толькі знаеш жэрці ды брахаць. Ужо цэлая падушка з тых пер'яў вышла бы. О, я табе цяпер дам падушку! На парозе ты спаць будзеш!

І так паўтаралася кожны дзень. Як не гусь, то качка, як не качка, то курка. Вялікая скупасць у Ігнаціхі праяўлялася. Раз як прадала на рынку курку і на 2 злотых менш, чым суседка ўзяла, дык тры ночы спаць не магла. А днямі суседку лаяла.

— Як тут бабу культуры навучыць? — разважаў Ігнат. — І суседзям лягчэй было б і сам спакайней пажыў бы.

Пайшоў, пагаварыў з суседам і назаўтра пачалося.

— О, вунь Грышка 300 тысяч у таламотку выйграў, а ты толькі і знаеш люльку ў зубах трымаць. А каб падумаць, як то мы жыць будземо, то не. Няўжо ж ты дурнейшы за яго?

— Ой, чула ты, бабо, звон, ды не ведаеш, дзе ён. Не ў таламотку, а ў таталётку. І не толькі Грышка, але і Іван.

— То як ведаеш, то чаму сядзіш, рукі пад задніцу падлажыўшы? Людзі грошы за невядома што бяруць, а ён і пальцам не кіўне.

— Ой, бабо-бабо, то ж у нас нават і газеты ў хаце няма. Дзе ж ты нумаркі праверыш? З суседзямі пасварылася...

— Каб мне заўтра газету выпісаў!

Час ішоў. Ігнат чытаў газету ды ўсміхаўся ў вусы. А жонка зноў давай сваё начытваць.

— Ці ж ты часам такую як трэба выпісаў? Людзі выйгрываюць, а ў нас нічога.

— Газета то такая, але бачыш, пісаць па-рознаму можна. Ніхто ж не глядзіць ім на пяро. Што захочуць, тое і напішуць. Па радыё гэта зусім інакш. Там усе слухаюць тое, што гавораць. Так хутка не схлусіш.

І такім чынам выплыла з жончынай панчохі новае радыё. Але зноў нічога. Зноў бяда.

— Бо, бачыш, радыё рэч добрая, але там толькі чуеш, а не бачыш. А нятледзячы ў вочы ўсё гаварыць можна. Каб тэлевізар, то прынамсі ўсё відаць было б. Так хутка не ашукаеш.

І перад святамі той самай дарогай прыйшоў у хату тэлевізар. І прынялася Ігнаціха глядзець. Цэлымі вечарамі, вытарашчыўшы вочы, сядзела перад гэтай дзіўнай скрынкай. А раніцай хутчэй да суседкі расказваць бегла, што, моў, ужо амерыканцы не толькі па месяцы ходзяць, але і загоны прадаюць, а ў нас то заўтра добрая пагода будзе, а на поўдні то ўжо ў поле выйшлі. А Ігнат з суседам міргалі толькі адзін да аднаго і пасмейваліся. Праглынула кручок. Але аднойчы Ігнат давай пра таталётку ўспамінаць.

— Знаеш што, бабо, трэба будзе тэлевізар прадаваць, бо нічога з нашага выйгрышу не выходзіць. І тут, відаць, ашукоўваюць.

— Я табе прадам. Век бы нічога не рабіў, толькі прадаваў. Сам неадукаваны дурань, то і мяне яшчэ хочаш у цемнаце пратрымаць. О, вунь жанчыны за свае правы змагаюцца. Я табе пакажу, што жонка варта! Не хочаш глядзець, дык выматвайся з хаты!

І так Ігнат навучыў сваю бабу культуры. У вёсцы заціхла і з суседзямі ладзілася, але жонкай засталася.

**Бізун**

# EWA ŚNIEŻANKA



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвалі**

Галена Артэмюк і Аліна Галушэўская з Парцава, Мар'я Лашкевіч, Анна Максімчук і Часлава Эйсмант са Збуча.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Ужо некалькі год я з'яўляюся верным чытачом „Нівы". Ваш куток у ёй лічу вельмі ўданым, хаця не надта веру ў перасуды. Мяне проста захапляе, што вы так умееце адказаць на самыя разнастайныя сны. Я быў бы вам вельмі ўдзячны, калі б захацелі адказаць і на мой, як мне здаецца, вельмі дзіўны сон, нягледзячы на тое, ці прадвяшчае ён добрае, ці дрэннае.

Сніцца мне, што знаходжуся я ў бальніцы, а на суседнім ложку ляжыць мая сяброўка, суседка (17 год). Быццам мае яна радзіць дзіця. Дзяўчына ляжыць накрытая белай прасцінаю. Твар яе вельмі спакойны, ляжыць без крыку, толькі на ілбе блішчаць кроплі поту. Адна з медсясцёр, якія абступілі яе ложак, звяртаецца да мяне, каб я памог прыняць нованароджанага. Я, зразумела, згаджаюся, і падыходжу да яе ложка. Мая сяброўка толькі глянула на мяне сумна і сказала, каб я прыняў дзіця. Я ўзяў дзіця, далікатна, праз прасціну, якой была накрыта, здаецца, за ножкі дзіцяці і пачаў з усяе сілы цягнуць. Ніхто на мяне не крычаў, ніхто нічога не гаварыў, сёстры стаялі нерухома, а мне здавалася, што ўсё гэта цягнецца надта доўга. Нарэшце, вельмі змучаны, я прыняў нованароджанага, і тады медсёстры без слова забралі яго і заапекаваліся ім. Але я яго не бачыў і не чуў яго голасу. Увесь час была дзіўная цішыня. Як толькі дзіця нарадзілася, прыадкрылася прасціна, і я ўбачыў частку ўнутранасцей сяброўкі (шэрага колеру). Ад гэтага я два разы вынітаваў. Прачнуўся я страшна стомлены...

Віктар з Падляшша

Не хачу вас пужаць, але павінны вы задбаць аб сваім здароўі, бо пагражае вам нейкая хвароба.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж прыгавораны судом на 10 000 зл. штрафу. Больш чым два гады да гэтага муж адышоў ад жонкі. Прадметы хатняй абстаноўкі былі куплены амаль выключна з заробкаў жонкі, бо муж не даваў нават на ўтрыманне свайго дзіцяці. Судовы выканаўца апісаў некаторыя прадметы хатняй абстаноўкі за штраф мужа. Ён тлумачыў, што ўся маёмасць, якая была прыдбана ў часе, у якім муж і жонка звязаны шлюбам, з'яўляецца супольнай іх маёмасцю. Аднак гэткая ўстаноўка вельмі крыўдная для жонкі і дзіцяці, якія мусяць цярпець за неадпаведныя паводзіны чалавека, які іх выракся. Ці можа жонка дабівацца, каб улады не забіралі прадметы хатняй абстаноўкі за штраф мужа?

АДКАЗ: Судовы выканаўца правільна павучыў, што маёмасць, набытая ў часе шлюбнага жыцця незалежна ад таго, ці муж і жонка жывуць разам і з чыёй працы набыта, з'яўляецца супольнай іх уласнасцю. Таму можа яна быць за даўгі мужа апісана і прададзена. Аднак жонка можа звярнуцца ў суд з патрабаваннем звольніць апісаную судовым выканаўцам маёмасць з-пад экзекуцыі, калі дакажа, што муж не спрыяў або толькі ў нязначнай частцы спрыяў набыццю апісанай маёмасці. Гэткае патрабаванне можа быць пададзена ў суд толькі на працягу трох месяцаў ад часу скіравання экзекуцыі да супольнай маёмасці. Каб папярэдзіць у будучыні адказнасць за даўгі мужа, жонка можа звярнуцца ў суд з патрабаваннем адмены маёмаснай супольнасці нават за мінулы час. Пасля адмены судом супольнасці набытая маёмасць з'яўляецца індывідуальнай уласнасцю таго, хто за свае даходы яе набыў.




Дарагое Сэрцайка, вучуся я ў IV класе тэхнікума. Ужо два гады хаджу з Міркам. Ён у гэтым годзе канчае тэхнікум. Далей вучыцца не збіраецца, ідзе працаваць. І магчыма, што восенню пойдзе ў войска. Ён гаворыць мне, каб на канікулах пажаніцца. У мяне застаецца яшчэ год навукі. Але Мірэк кажа, што змагу я гэты клас закончыць завочна. Спачатку я і слухаць не хацела, але ён пераканаў мяне, што так будзе добра. Мірэк вучыцца ў адной школе са мной, увесь час мы разам. Ён вельмі зайздросны і баіцца на гэты год мяне ў школе аставіць, каб я яго не пакінула. Я Мірка вельмі кахаю, і такое б не здарылася, але пераканаць яго не магу. З-за гэтай зайздрасці і цяпер у нас частыя сваркі, бо ён перажывае, калі які хлопец гляне ці загаворыць са мной. Вось і кажа, што калі пажэнімся, дык тады будзе пэўны. Ён мяне штодзень наведвае, прыходзіць на кватэру. Бацькі мае жывуць на вёсцы і калі я, заехаўшы, сказала ім аб шлюбе, яны на мяне страшэнна сварыліся ды маіх прапаноў і слухаць не хацелі. Кажуць, што школу абавязкова мушу закончыць, што яшчэ маладая, і сама не ведаю, што раблю. Бо і жыць жа, пажаніўшыся, не будзе дзе. Але я б жыла ў Міркавых бацькоў. Там цеснавата, малая кватэра, але яны згаджаюцца мяне ўзяць. І я вось не ведаю, што рабіць, каго слухаць — бацькоў, ці Мірка. Вырашы, Сэрцайка, маю праблему!

Ніна з Бельшчыны

Ніна! Поўнасцю згаджаюся з тваімі бацькамі. Школу ты павінна закончыць абавязкова. Зайздрасць Мірка — гэта не прычына, каб ты пакінула школу і выходзіла замуж. Нават і замужняй жанчыне немагчыма адсуперавацца ад усіх знаёмых. Не ўскладняй без пары сабе жыцця. Закончы школу, Мірэк адслужыць войска, вось тады вам і аб шлюбе гаварыць.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў




# Беластоцкая мода

Нядаўна Ваяводскае прадпрыемства ўнутранага гандлю ў Беластоку наладзіла паказ моды, на якім можна было ўбачыць, што прапануе наш гандаль на сёлетні веснавы сезон, адным словам, што можна сёння купіць у нашых магазінах. Была гэта не нейкая там авангардная калекцыя, а практычная вопратка, якой патрабуе кожны.

Было вельмі многа жаночых паліто і мужчынскіх плашчоў, курткі і касцюмы для абодвух палоў. Крыху менш было сукенак, затое шмат спаднічак з блузкамі. Фасоны былі ў асноўным традыцыйныя, або лепш сказаць — да якіх мы ўжо прывыклі. Цікава выглядалі, напрыклад, лёгкія жаночыя паліто з капюшонам, мужчынскія курткі накшталт пінжака, з металічнымі гузікамі, шырокія жаночыя плашчы, якія можна насіць адначасова з поясам і інш. Многа было маладзёжных касцюмаў з тэхасу. Колер: беж, шэры, цёмнасіні, карычневы, чырвоны, жоўты.

**Сяброўка**

Фота **К. Свідэрскага**








Ішоў снежань 1943 года. Упершыню пасля таго, як паўтара года назад быў захоплены Севастопаль, савецкія войскі зноў уступілі на крымскую зямлю. Часці нашай Прыморскай арміі фарсіравалі Керчанскі праліў з раёна Тамані на Каўказе і высадзіліся на крымскім беразе. Расшыраючы адваяваны плацдарм, яны вызвалілі Керч і за некалькі кіламетраў на захад ад горада ўступілі ў невялікі разбураны пасёлак Аджымушкай. Там, на ўскраіне пасёлка, байцы ўбачылі паўзаваленыя ўваходы ў падзямеллі, якія на штабных картах называліся Аджымушкайскімі каменяломнямі.

Тут, пад зямлёй, у тоўшчы магутнага каменнага масіву, на якім стаяў пасёлак Аджымушкай, цягнулася разгалінаваная і шматярусная сетка шырокіх тунеляў і вузкіх бакавых калідораў, якая раскінулася ў розныя бакі на многія кіламетры вакол. І як толькі нашы салдаты з ліхтарамі і факеламі ў руках асцярожна спусціліся туды, перад іх вачыма паўстаў страшэнны малюнак. Гэтыя падзямеллі захоўвалі ў сваім змроку сляды жорсткай і доўгай барацьбы, якая адбывалася некалі тут. Па ўсіх тунелях і калідорах была раскідана розная ваенная маёмасць: паржавелыя чырвонаармейскія каскі, пазелянелыя патроны і гільзы, пакрытыя ржой вінтоўкі з разбітымі і гнілымі ложамі, біклагі, кацялкі, кавалкі тэлефоннага кабелю, сапёрны інструмент. Тут і там на сценах можна было ўбачыць надпісы, адрасаваныя Радзіме, родным і блізкім, і, мяркуючы па датах, што час ад часу сустракаліся, усе яны былі зроблены летам і восенню 1942 года.

Але самае страшнае заключалася ў тым, што ў гэтым падземным лабірынце было поўна астанкаў загінуўшых тут людзей.

Часам гэта была проста куча чалавечых касцей, часам — цэлыя шкілеты, яшчэ апранутыя ў пагнілыя лахманы чырвонаармейскіх гімнасцёрак. Часам гэтыя шкілеты, дзіўна скручаныя, сведчылі аб тым, што чалавек памёр пакутлівай смерцю, напэўна задыхнуўшыся. На іншых яшчэ захаваліся рэшткі бінтоў, і можна было ўявіць, што людзі загінулі ад ран. Расказваюць, што ў адным месцы нашы байцы ўбачылі прыхінутае да сцяны дрэўка з ужо сатлелым сцягам і каля яго на падлозе — шкілеты двух вартавых. Але самае незвычайнае і трагічнае відовішча чакала іх у далёкім адсеку вялікага тунеля.

Тут, мяркуючы па ўсяму, знаходзіўся шпіталь падземнага гарнізона. Гэты адсек, як і ўсе астатнія памяшканні ў падзямеллях, быў высечаны ў тоўшчы вапняку, але, напэўна, таму, што паветра тут было больш вільготнае, на ўсіх прадметах, якія былі тут, з цягам часу ўтварыўся цвёрды белы асадак вапны. У шпіталі стаялі дзесяткі ложкаў, а на ложках і прама на падлозе ляжала шмат дзіўных белых мумій. Гэта былі трупы людзей, якія загінулі ад ран і ад голаду. Сама прырода ўзяла кожнага з мерцвякоў у своеасаблівую вапнавую труну, падобную на саркафагі фараонаў Старажытнага Егіпта.

Цвёрды белы панцыр, у якім знаходзіліся нябожчыкі, яшчэ крыху захоўваў форму чалавечага цела. У яго ўжо размытым рэльефе ўсё ж можна было ўгадаць абрысы твару — глазніцы, выступы носа і падбародка, становішча рук і ног нябожчыка. І людзі, якія прыйшлі сюды, доўга стаялі моўчкі, ашаломленыя і прыгнечаныя гэтым дзіўным відовішчам, і міжволі стараліся розумам пранікнуць у тайну, якую захоўвалі гэтыя падзямеллі.

Лёгкі ток паветра ў падземных калідорах часам шапацеў нейкімі пажоўклымі паперамі, якія валяліся на падлозе. Калі іх падымалі і разглядалі, выяўлялася, што гэта штабныя распараджэнні, спісы падраздзяленняў, загады па гарнізону. Пазней у гэтых падзямеллях знайшлі два дробна списаныя сшыткі. Гэта былі дзённікі двух удзельнікаў абароны — палітрука марской пяхоты Аляксандра Сарыкава і пехацінца старшага лейтэнанта Андрэя Клабукова. І калі нашы афіцэры ў штабе прачыталі гэтыя дакументы, упершыню стала зразумела, які дзіўны подзвіг мужнасці, стойкасці, самаадданасці здзейснілі ў Аджымушкайскіх падзямеллях паўтара года назад савецкія людзі.

Абодва сшыткі пазней былі адпраўлены ў Маскву і цяпер, напэўна, знаходзяцца недзе ў архівах, а вытрымкі з дзённіка палітрука Аляксандра Сарыкава друкаваліся ў свой час у адным з нашых часопісаў. Тады ж, у 1944 годзе, сёе-тое расказаў пра герояў Аджымушкая ў сваіх артыкулах пісьменнік Марк Коласаў, а наш вядомы паэт Ілья Сяльвінскі, якому давялося пабываць у каменяломнях адразу пасля іх вызвалення, прысвяціў удзельнікам гэтай падземнай абароны вялікі ўсхваляваны верш.

Але вайна працягвалася. Савецкая Армія гнала ворага ўсё далей на захад, разгортваліся новыя баі, з'яўляліся новыя героі, і сярод усіх гэтых падзей паступова была забыта абарона Аджы-

